# ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ №102

красавік 2007

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ



## ЛЕЎ САПЕГА.

Выдатны сын нашай зямлі Леў Сапега нарадзіўся акурат 450 год таму ў мястэчку «Астроўна» ў Бешанковіцкім раёне на Віцебшчыне. Імя гэтае амаль начыста забыта ў Беларусі.

Канешне, калі бальшавіцкая банда пачынала нашу гісторыю з 1917 году, то ўсё, што было за гэтым даляглядам, папросту не існавала.

А Леў Сапега сапраўды быў выбітным чалавекам.

Ён навучаўся ў еўрапейскіх універсітэтах, ведаў мовы, ведаў права.

У час, калі наша дзяржава-Вялікае Княства Літоўскае-была моцна аслабленая войнамі з Масковіяй і палякі ўжо былі разявілі рот на Беларусь- Леў Сапега разам з іншымі юрыстамі распрацаваў новую рэдакцыю «Статуту Вялікага Княства Літоўскага», дзе замацаваў суверэннасьць нашага краю і вяршэнства нашай мовы.

Леў Сапега быў супраць авантуры з Ілжэдзьмітрыем і паходу на Маскву.

Складзены пад кіраўніцтвам Льва Сапегі «Статут» дзейнічаў у Беларусі да 1830 году, то бок быў Канстытуцыяй болей за 240 гадоў! Ніводная сучасная канстытуцыя не можа пахваліцца такім доўгім векам.

Нашаму народу ёсьць чым ганарыцца. Але сельскі скатамагільны рэжым, што часова ўсталяваўся ў Менску, не ведае і не хоча ведаць герояў нашай гісторыі, верне ад іх лыч.

Угодкі слаўнага сына нашай зямлі прайшлі незаўважна і непрыкметна для тэлебачання і газет.

Але мы, спрадвечныя жыхары гэтага краю мусім ведаць сваю славу.

**ЛЕЎ САПЕГА- СЛАЎНЫ ЛІЦЬВІН-БЕЛАРУС.**

А цяперашнія канстытуцыяпісцы-какі. Напішуць канстытуцыю і тут жа яе мяняюць. Улады ім не хапае,галодныя А шчэ хваліўся:«Я ўлась цю наеўся»... Недаеў!

**СЛАВА ЛЬВУ САПЕГУ!**

## СЬМЯЛЕЙ І ГЛЫБАЧЭЙ ЧЫСЬЦІЦЬ У ДУБРОВІ.

З задавальненнем тутэйшыя працоўныя масы ўспрынялі навіну, што новы старшына арцелі-цяперака, як дзяржава раскулачыла шчэ раз сялян, ён завецца... не, не аконам, а дырэктар-пачаў ладзіцьператрус тутэйшага кіравальнага апарату.

За падман і вымагальніцтва адпраўлены на пеньсію Уладзімір Ілліч Згусьлі хмары над галованькаю Віктара Ка.,за выкарыстанне зямлі і калгаснага начыння мусіць заплаціць начальнік По, Ніна Хведарава,старшы саветнік па дзяржаўнай ідэалогіі, пакінутая, як кажуць, каб браць штрап зь ейнага заробку ў фонд тутэйшай латыфундыі.(А чаму не з пенсіі? зьдзівімся мы). Кажуць, у пракуратуру гукалі бы лога начальніка філіялу Незразумела адно:чаму так лёгка красьці начальнікам і так небясьпеч на простым зладзеям?

## МАЛАТКОМ ПА ЧАРНОБЫЛЮ

От ужэ 23 гады прайшло з таго кашмару, а ён не мінае.Вучоныя і паніка палохалі народ радыяцыяй,але народ не баіцца: радыяцыя не кулямёт, падкошуе не адразу.А тут і антыбеларуская ўлада разам з нябачным забойцам цьвенькае: жыць можна, усё чыстае.І ўсё пагібае, што ў якім-небудзь Брагінскім раёне не хапае 170 мэханізатараў.Скажам прашчэй: не хапае 170 ведзьмаў-камікадзе, якія павінны былі б сабе і народу на згубу рабіць сучасную радыяцыйную атруту - гадаваць мяса.

Не хапае злосьці і абурэння, бля..ь,чуць як сучасныя невукі, а калі не невукі, то забойцы, як доктар Менгеле, развважаюць, маўляў,радыяцыйнае збожжа аддадзім не людзям, а скаціне.

Цудоўна ж ведаюць, псы, што існуе харчовы ланцуг і з гэтага ланцугу радыяцыя не вулузуе, а трапляе да людзей зь мясам ці малаком.

Ці ж можна назваць людзкім рэжым, які сам хавае ад грамадзкасьці праўду, дзейнічае на шкоду людзям і як бязьлітасны акупант,душыць любую спробу высьветліць рэальнасьць ці хоць бы прыцягнуць да чарнобылю належную ўвагу.Дык раз душыць, то, пэўне, нешта істотнае хавае. Нашто? Рэжым гаворыць пра цяжкі стан з дэмаграфіяй у Беларусі. Гэта так. Але чаму не зьвярнуць увагу на тое, што, як кажуць навукоўцы, ў нас штогод з-за Чарнобылю памірае 70.000 - семдзесят тысяч- чалавек?

Менскія будлы прыватызавалі і манапалізавалі народную бяду і ім і гора мала.

ПАСЛУХАЙЦЕ, БАБЫ! Нейкая дабрачынная арганізацыя з-за мяжыхай тым людзям Бог прыбавіць веку- прывезла ў Мазыр мамограф-апарат, каб пабачыць рак у цыцках. Апарат быў не новы, але зусім прыдатны і добры. Але Людміла Пастаялка, міністарка аховы здароўя-, кажуць, што гэта ЯГОНАЯ новая чэшча- (яна нядаўна памерла і была пахавана з вялізарнай помпай)- выдала загад не браць апаратуру, старэй за шэсьць год.

Гэны мамограф быў трохі старэй за шэсьць год. Таму давялося мазырскім лекарам за свае грошы выкупіць апарат на мытні і стаць вандаламі: малаткамі раструшчыць спраўны рабочы апарат.

Цынізм гэтага варварства ў тым, што такі апарат ёсьць адзін у Гомлі на ўсю Гомельскую вобласьць і ён нашмат старэй за 6 год.

От і давядзецца жанкам з Жыткавіч ехаць у Гомель, стаць у чаргу, прастояць мо месяц ці болей, каб пабачыць што творыцца ў цыцках і пачаць лячыцца.

У сьвеце хапае бардаку Але кожнаму свой бардак найгідчэйшы.

Дык як жа ўлада адзначыла чарговыя ўгодкі нашай трагедыі?

Кажуць, што ў Маладэчне БРСМ-клакёры-сракалізы рэжыму зладзілі сьвята «Чарнобыль- дарога жыцця». Ды за такое трэба прама ў Баршчоўку перці! Але не паперлі.

А вось тых, хто патрабаваў празрыстасьці ў чарнобыльскіх справах прылашчылі АМАПАм ды таямнічымі тыпамі ў цывільнай вопратцы.То бок Чарнобыль стаў прыватнай уласнасьцю рэжыму і дзяржаўнай манаполіяй і патрапіў пад апеку рэпрэсіўнага апарату. Стараліся біць моладзь і дзяўчат, на"т малых! Тых, каму нараджаць !!

Бесчалавечны скатамагільны рэжым не мае ні сораму, ні жальбы, ні літасьці.

У Беларусі па Чарнобылю б"юць не толькі малатком, але і дубінкамі. Ды ці выб"еш імі радыяцыю?

---

КАЛІ ТЫ ГІДУЕШ ПАЗІРАЦЬ БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ - ТЭЛЕБАЧАННЕ ДЛЯ БЕДНЫХ І НЕАДУКАВАНЫХ, ТО ЧАМУ Б НЕ ПАСЛУХАЦЬ РАДЫЁ «СВАБОДА»- РАДЫЁ РАЗУМНЫХ І ДЛЯ РАЗУМНЫХ. НА РАСКЛАД:

06-08гадзін-31 і 41 м
18-20 гадзін 31 і 19 м
20-22 гадзіны 41 і 19
22-24 гадзіны 41 і 31 метр.

Паслухай СВАБОДУ.
Паслухай- не пашкадуеш

## СУБОТНІКАМ ПА КІШЭНЯХ.

Пры Шушкевічу і Грыбе «камуністычных» суботнікаў не было.

Пры Лукашэнку ягоная «партыя ўлады» - незарэгістраваная арганізацыя, за прыналежнасьць да якой - па іхніх жа законах!- трэба пасадзіць за краты на два гады ўсю вертыкаль разам з шчыком- аднавіла гэты прыніжальны для людзкой годнасьці таталітарны рытуал. Фактычна, гэта пазаэканамічны прымус.

Сёлета суботнік, як справа дзяржаўная, быў абвешчаны Саветам Міністраў. (Раней гэта прапаноўвалі нейкія таямнічыя «працоўныя») Да кажнага калектыву было даведзена «цьвёрдае заданне» колькі грошай ён вінен аддаць на халяву дзяржаве.(Цьвёрдае заданне- вялікі падатак, які бальшавікі ўскладалі на сялян і за невыкананне якога судзілі, а маглі, і не судзячы, выслаць у Сібер.)

Суботнікаў-бенефісаў было ажно два:адзін бенефіс быў абласны. Другі- раённы. Дзіва ў тым, што раённы бенефіс быў **утрая даражэйшы** за абласны.

Пакольні ненажэрнай вертыкалі патрэбны грошы- c"est la vie!-(сэ ля ві)-, то на той суботнік у прынцыпе можна было і не ісьці.

Як маладой пры феадалізьме можна было адкупіць ад феадала сваю цэлку і не пераспаць зь ім у першую шлюбную ноч, так і тут , як кажуць, заплаці суботнік і сьпі спакойна.Сям-там так і зрабілі. Але ненажэрныя старчакі ведаюць, што народ трэ трымаць у пакоры, таму і гналі працоўных на «працу». Нават дзеці не былі вольнымі ад партыяўладнага прыгону.Нават іх абклалі аброкам на карысьць таўстамордых старчаковых!

Нездарма! Дзеці рабоў мусяць быць трэніраваныя ў рабстве і пакоры.

**Куды і на які рахунак былі пакладзеныя тыя выкручаныя з пляскатых кашалькоў працоўных грошы- невядома.**

**Як і на якія мэты яны будуць траціцца- невядома.**

Але мінізадача выканана: народ чарговы раз схіліў карак перад ашчэрам уладароў і без пратэсту аддаў даніну, засьведчыўшы сваю пакору гвалту й зьдзеку.

Скажы мне, о чытачу!- дзе яшчэ ў Еўропе так вольна дыхае дарагім каньяком «партыя ўлады»? Дзе яшчэ народ так пакорліва на сорам сабе дае сябе сагнаць на панскую шарварку?

Бацькі і мацяркі!

Рятуйце сваіх дзетак ад хцівых хіжакоў!

Не дазваляйце сваім дзецям хадзіць на «суботнікі»,не прывучайце іх да рабства! А рабства пачынаецца ў школе.

Таму, калі не можаце пратэставаць перад начальнікам, пасылайце далей школу і ейных прыгоншчыкаў шкрабаў- (школьных работнікаў).

Не давайце старчакам уссесьці на карак хоць бы вашым дзецям.

## СКРАБУЦЬ ПА ЖЫВОМУ

Шырокаабвешчаная і фальшывая па-сутнасьці праграма падымання заробкаў ціха ляснула.

Сотні даляраў абяцаных заробкаў рассыпаліся на парахню.Вядома, простаму і найпростаму люду можна дурыць мазгі, але ці надоўга?

Працоўным па жывому рэжуць заробкі. Сьпярша парэзалі заробкі лясьнікоў.Потым у прымусовым парадку прысілілі качагараў падпісаць згоду на зьмяншэнне заробку. Затым прышла чарга работнікаў электрасетак.Характэрна, што рэжым, як умелы эксплуататар,пачынае з дробных працоўных калектываў, дзе людзям цяжка эфектыўна арганізавацца на абарону свайго роўню жыцця.

Заўважым, што за мінулыя 3 месяцы рэальны заробак упаў на 6%. Гэта багата.

Дзе ж казённыя прафсаюзы? Як дзе? На баку працадаўцы, то бок рэжыму. Дык памятай і ведай, што плоцячы прафузносы ты тым самым мацуеш свайго непрыяцеля.

Дзе апазіцыя, сьвятая справа якой прасьвятліць і памагці працоўным адстояць свае правы на годны ровень жыцця? Гуляе...

Урэшце, дзе самі працоўныя,якія павінны былі б шукаць гэную апазіцыю, каб спалучыць досьвед і сілу?

У тым то і бяда Беларусі, што працы багата, а работнікаў мала.

## МІЛЬЯНЕРЫ.

Раней у Беларусі мільянерамі былі толькі калгасы. Але цяперака, дзякуючы праграме дыктатара па падвышку заробку ў далярах, у нашай Радзіме зьявілася ажно 10.000 даляравых мльянераў.Пра гэта напісалі ў некаторых газетах. Цікава, што толькі два зь іх- абодва спартоўцы- афіцыйна маюць рахунак у банку.
Астатнія падпольныя.

Канешне, усьцешна, што і ў нас навучыліся красьці, гандляваць, шпікуляваць з толкам. Не ўсё ж каўказцам ды азіятам гэтым займацца.

По колькасьці мільянераў на душу насельніцтва Беларусь абскакала Нямеччыну:у нас адзін мільянер на 1000. чалавек, у іх- на 1.600.

Дыктатар неяк блудліва заявіў, што будзе лічыць сваю дзейнасьць правальнай, калі наша грамадзтва расколецца на жменьку багацеяў і на масу немаёмых. Дык вось вынік ягонай дзейнасьці: камуністычны эгалітарызм убогасьці для ўсіх рухнуў, Беларусь яўна і імкліва дзеліцца на невялікі пласт заможных і вялікі пласт маламаёмых.

Шкловец хацеў роўнай беднасьці для ўсіх.Чаму ж ён не сказаў:»Я буду лічыць сваю дзейнасьць правальнай, калі праз пяць год у нас удвая/ утрая не падвысіцца жыццёвы ўзровень, не вырасьце спажыванне, не вырасьце ўтрая ВНП (валавы нутраны прадукт)»

Дарэчы, пра ВНП. Гэта адзін з найважнейшых паказьнікаў эканамічнага разьвіцця краіны. Пры камунізьме ён у нас быў 6180 даляраў на душу чалавека.

Зараз у лукашысцкай Беларусі ён складае ўсяго 1.770 даляраў на душу.У тры разы меней!Росквіт!

Для параўнання: у Нарвегіі болей за 40.000, у Ірландыі-35.000.Па 25-26.000 у Іспаніі, Францыі.

Дык не трэба даваць дыктатару і надалей марыць пра роўную беднасьць для ўсіх, а шукаць чалавека і людзей, здольных выцягнуць наш край з атхлы беднасьці. Пакуль наш ВНП будзе мізэрным,няма чаго і спадзявацца на лепшае жыццё.

## КРЫВАДУШНІКІ.

Ці даўно быў той час, калі школьныя настаўнікі ў выхаваўчых планах адмыслова мелі разьдзел «атэістычнае выхаванне», дзе павінны былі расказваць дзецям, што Бога німа.

Але Бог іёе. Цяперака кажын нехрышчоны камуніст, калі памрэ, маскуецца пад рознымі праваслаўнымі стужачкамі, сьвечачкамі, сьвятой вадзіцаю, а на магілу яму стаўляюць крыж.

Тыя, што ганілі Бога, хочуць падманіць яго і па сваёй сьмерці.

Надоечы па дзіцячых установах раьзвезьлі дырэктыву, дзе аддзелы адукацыі і праваслаўная расейская царква прадпісваюць ладзіць вялікодныя фестывалі. Асабліва расчулена выглядае разьдзел «сьвятыя званы дзяцінства». Дзе ж тыя званы? Хіба мо ў камунякаў у вушшу зьвініць па прымаўцы «хто ўкраў парася, у таго ў вушшу пішчыць».

Неяк дзіўна выходзіць: з аднаго боку як быццам бы свабода сумлення, а з іншага: а што калі настаўнік жыд, ці вучні жыды?Ці пяцідзесятнікі? Ім што, таксама праваслаўіцца?

## ЦЬВЁРДАКАМЕННЫ з КПСС

У Расеі памерлі праз дзень два выбітных чалавекі: Барыс Ельцын і Вячаслаў Растраповіч.

На паховіны Ельцына, сына з раскулачанай сям"і, магільшчыка КПСС, развальшчыка імперыі ліха СССР зьехалася багата народу. Быў між яго і беларускі дыктатар. Спачуваў. Ён ніколі не папракаў Барыса за развал СССР, усё валіў на Шушкевіча і Пазьняка.

Праз дзень памёр Растраповіч,выдатны віяланчаліст і дырыжор, чалавек таксама сусьветнай славы. На ягоныя паховіны таксама сабраліся вельмі відныя людзі. Прыляцела нават іспанская каралева доньа Сафія.

Ад беларускага дыктатара не было нават тэлеграмы са спагадай.Памятае наш, што Растраповіча і ягоную жонку Галіну КПСС абвясьціла «ідэйнымі выродкамі» і пазбавіла савецкага грамадзянства.

Капээсэсаўцы ніколі нікому нічога не даруюць.

Друкарня імя І. Масьціцкага
100 асобн. Як заўсёды.